● *Погляд*

# АБСЕ ЧАКАЕ ПЕРАГАВОРАЎ...

Кіраўнік Кансультатыўна-назіральнай групы АБСЕ ў Беларусі пасол Ханс Георг Вік спадзяецца, што перагаворы паміж уладай і апазіцыяй адносна будучых выбараў закончацца да красавіка.

Ён, вярнуўшыся да Стамбула, заявіў, што лічыць "вельмі важным, што на саміце АБСЕ разглядалася беларускае пытанне ў кантэксце свабодных і справядлівых выбараў, доступу да СМІ і функцый новага парламента". Ён не хаваў сваёй задаволенасці пунктам 22 Дэкларацыі Стамбульскага саміта АБСЕ, прысвечаным Беларусі.

— У першым сказе гэтага пункта Дэкралацыі выказваецца поўная і рашучая падтрымка нашай дзейнасці тут. У другім сказе гаворыцца, што толькі праз дыялог можа быць створана база для правядзення свабодных і справядлівых выбараў, і гэта азначае, што для прыняцця дэмакратычнага закона недастаткова работы толькі ўрадавых структур і дзеючага парламента. Закон аб выбарах павінен стаць вынікам дыялога паміж урадам і апазіцыяй. Пад верхавенствам закона маецца на ўвазе і спыненне прыняцця рэпрэсіўных мераў супраць палітычных апанентаў... Доступ да СМІ разумецца як доступ палітычных партый да дзяржаўных СМІ і як доступ да СМІ ў якасці неад'емнай часткі тых рэформаў, што павінны стаць вынікам дыялога ў краіне, —такім чынам пракаменціраваў пункт 22 Стамбульскай дэкларацыі пан Вік.

Ён прызнаў, што ўжо дасягнутыя дамоўленасці па доступу пазіцыі да дзяржаўных СМІ падвергнуты сумненню ў шэрагу груп унутры Беларусі і адкліканы ўрадавым бокам і гэта выклікала занепакоенасць у АБСЕ.

— Я хацеў бы падкрэсліць, што гэтыя дакументы з'яўляюцца вынікам перагавораў паміж двума бакамі, а не вынікам прыняцця імі прапаноў з боку АБСЕ, — зазначыў Ханс Георг Вік.

— З улікам пункта 22 Дэкларацыі мы пастараемся ўнесці яснасць адносна пагаднення аб доступу пазіцыі да дзяржаўных СМІ, а таксама будзем дабівацца хутчэйшага ажыццяўлення пагаджальных захадаў па ўстанаўленню ў краіне атмасферы даверу для пачатку дыялога... Гэта дэкларацыя саміта АБСЕ, а не нейкага нефармальнага камітэта, і яна не пакідае месца для аблегчанага шляху, у адпаведнасці з якім не будзе перагавораў. Такім чынам нельга будзе дабіцца міжнароднага прызнання. У Дэкралацыі выказаны абавязацельствы як беларускага ўрада, так і міжнароднай супольнасці. Прэзідэнт Лукашэнка разам з іншымі прэзідэнтамі падпісаў гэтую Дэкларацыю.

Кіраўнік КНГ АБСЕ ў Мінску выказаў спадзяванне, што станоўчыя вынікі перагавораў павінны быць дасягнутыя ўжо да красавіка наступнага года, каб можна было паспець іх аформіць у заканадаўчым парадку.

Пан Вік паведаміў, што акрамя афіцыйнай дэлегацыі з Беларусі ў Стамбул рабочай групай Парламенцкай Асамблеі АБСЕ па Беларусі пад кіраўніцтвам пана Адрыяна Севарына былі запрошаны ўрадавыя і апазіцыйныя дэлегацыі на перагаворах па правядзенню свабодных і справядлівых выбараў у Беларусі. Урадавую дэлегацыю ўзначальваў памочнік прэзідэнта М.Сазонаў, а ад апазіцыі былі прадстаўлены сем партыйных лідэраў за выключэннем Мікалая Статкевіча, якога ў Стамбуле не адпусцілі следчыя. Як урадавая, так і апазіцыйная групы з Беларусі мелі свае праграмы афіцыйных сустрэч, у прыватнасці, з прадстаўнікамі Парламенцкай асамблеі АБСЕ, з дэлегацыямі ЗША, Фінляндыі, міністрам замежных спраў Польшчы, а таксама шэраг нефармальных сустрэч. Некаторыя сустрэчы абедзве дэлегацыі ад урада і апазіцыі праводзілі супольна, у прыватнасці, з упаўнаважаным АБСЕ па свабодзе СМІ.

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**

# Мужчыны — слабы пол. Беражыце мужчын!

Узмацненне негатыўных тэндэнцый у стане здароўя мужчынскага насельніцтва адзначалі ўдзельнікі навукова-практычнай канферэнцыі "Фактары здароўя мужчын", якая прайшла ў Башкорстане. Удзельнікі форуму канстатавалі, што розніца ў сярэдняй працягласці жыцця мужчын (61 год) і жанчын (72 гады) павялічылася амаль да 12 гадоў. Смяротнасць мужчын у працаздольным узросце перавышае смяротнасць жанчын у 4,3 раза. Гэта значыць, што здароўе мужчынскай папуляцыі знаходзіцца на беспрэцэдэнтна нізкім для мірнага часу ўзроўні. І працягвае катастрафічна пагаршацца.

Вучоныя адзначаюць рэзкае аслабленне рэпрадуктыўнай функцыі мужчын. На думку спецыялістаў, сярод асноўных прычын гэтага —уплыў таксічных рэчываў на вытворчасці, дрэннае экалагічнае становішча, а таксама нездаровы ўклад жыцця. Многія мужчыны сёння не ўпэўнены ў заўтрашнім дні, яны не думаюць аб сваім здароўі і не берагуць яго. Гэта ўскладняецца адчуваннем усё большай сацыяльнай несправядлівасці, стратай жыццёвых арыенціраў.

Удзельнікі канферэнцыі звярнулі ўвагу на тое, што вырашэнне праблем здароўя мужчынскага насельніцтва пачнецца толькі тады, калі дзяржава і грамадства ў цэлым зразумеюць, што здароўе мужчын — гэта дакладны адбітак іх духоўна-маральнага, псіха-фізіялагічнага, сацыяльна-эканамічнага і экалагічнага дабрабыту.

**БЕЛТА.**

## *Советские анекдоты*

На собрании председатель колхоза говорит о том, как много дала Советская власть простым людям: —Посмотрите на Марию Петровну — она была простой крестьянкой, а сейчас заведует библиотекой. Посмотрите на Пелагею Федоровну — она тоже была просто крестьянкой, а сейчас заведует клубом. Посмотрите на Степана Митрофановича — был дурак дураком, а сейчас — секретарь парторганизации!



У президента Папуа 100 любовниц. Одна из них больна СПИДом. Кто — сейчас выяснятся. У президента США 100 советников по безопасности. Один из них — агент КГБ. Кто — сейчас выяснятся. У президента СССР 100 советников по экономике. Один из них разбирается в экономике. Кто — сейчас выясняется.



Кавказец с шишками на лбу и разбитыми в кровь руками стоит на обрыве и держит бумеранг, внимательно его разглядывая. Подходит к нему другой кавказец и спрашивает:

— Слушай, что это?
— Не знаю.
— Слушай, зачем это?
— Не знаю.
— Так выкинь на фиг, да?!
— Слушай, сам выкинь, да?!



*ЗДАРОЎЕ — ВАША БАГАЦЦЕ*

## БЕРАЖЫЦЕ ЯГО!

У апошні час шмат чуем па радыё і тэлебачанні, чытаем у газетах аб тым, што ў Беларусі няма вакцыны супраць грыпу, каб зрабіць насельніцтву прафілактычныя прышчэпкі. А між тым эпідэмія грыпу чакаецца, і неўзадаўгі... Таму давайце самі паклапоцімся пра сваё здароўе і падрыхтуемся ва ўсеўзбраенні процістаяць грыпу. Для прафілактыкі і лячэння гэтай хваробы будзем піць.

### ПРОЦІГРЫПОЗНЫЯ ЧАІ

Ва ўсходняй і тыбецкай медыцыне супраць грыпу выкарыстоўваюць галінкі маліны, якія можна збіраць летам і зімой. Рэцэпт просты: сталовую лыжку дробна нарэзаных галінак заліць шклянкай кіпеню і гатаваць 10-20 хвілін, настаяць каля двух гадзін. Піць невялікімі глыткамі, але часта, напрацягу дня.

* * *

Кару вярбы, кветкі рамонку, ліпавы цвет, плады шыпшыны ўзяць пароўну, усё перамяшаць. Чайную лыжку збору заліць шклянкай кіпеню, настояць 10 хвілін, затым працадзіць і адціснуць раслінную масу. Прымаць па тры шклянкі цёплага настою тры разы на дзень за 15 хвілін да яды.

* * *

Ліпавы цвет і плады каліны перамяшаць, 2 сталовыя лыжкі сумесі заліць двума шклянкамі кіпеню, гатаваць 5-10 хвілін, працадзіць. Піць гарачым на ноч па 1-2 шклянкі.

* * *

*Плады маліны — 2 часткі, лісты падбелу (маці і мачыхі) — 2 часткі, травы мацярушкі (душыцы) —1 частка.* Сталовую лыжку сумесі заварыць шклянкай кіпеню, настояць 20 хвілін, працадзіць. Піць па паўшклянкі гарачага настою 3-4 разы на дзень як патагоннае.

*ХОТИТЕ — ВЕРЬТЕ, ХОТИТЕ — НЕ ВЕРЬТЕ*

# АПОКАЛИПСИС ЗАВТРА (ПО ПРЕДСКАЗАНИЯМ НОСТРАДАМУСА)

## *XX ВЕК ИДИОТОВ*

Век двадцатый, жестокий и страшный. Две мировых войны, самовластье рабов. И наука в кровавом пожаре из безверья воздвигнет богов. Он писал: "Человечество увлечется железными игрушками, которые не заменят ему божества. Будет нашествие безголовых идолов, которые молитвы Богу в душах людей заменят несусветной ерундой. Железные птицы своим ревом будут наполнять пространство. Люди изобретут чудесные зеркала, при помощи которых смогут на большом расстоянии разговаривать и видеть друг друга. Многие звезды будут открыты оптическим оком. И чем больше будет железных игрушек, тем больше будет войн, тем больше разобщение человечества, тем больше будет его зависимость от деспотизма, тем больше оторвутся люди от природы, которая начнет им страшно мстить".

Судите сами, что из этих пророчеств уже стало нашим настоящим. Сам же Нострадамус считал безусловным исполнение всего, что зашифровал. "Сын мой, до тех пор, пока большинство из моих пророчеств не исполнится, нас не коснется милосердие Божие", — писал он своему сыну.

По Настрадамусу, решающими для судеб человечества годы — 1789, 1914, 1939, 1999.

## *В XXI ВЕКЕ БУДЕТ ХОРОШО РУССКИМ И НЕГРАМ*

Германия, снова объединившись, в XXI веке становится монархией. Принц из древнего немецкого рода, живущий на чужбине, займет золотой трон и получит цветущую страну. В Германии вновь возникнет Священная империя. Немецкий гений создаст "государство духа", исполненное проникновенной религиозностью и облагороженное человеколюбием.

Государство Израиль станет на пути "арабской агрессии". Захватить огромные территории на юге европейского континента арабы смогут лишь после создания коалиции с "великим азиатом" — Китаем. Тот будет добиваться мирового господства, но от своих притязаний на регион Тихого океана откажется после того, как США объявят ему войну. Это, в свою очередь, повлечет усиление давления китайцев на Запад. Возникнет реальная угроза России со стороны "желтых орд". Атлантическая братоубийственная война Франции, Англии и США завершится тяжелым поражением Франции. Положение спасет Генрих Счастливый Французский из рода Бурбонов. В качестве президента объединенных наций Европы и правителя мира он дарует народам Земли 57 мирных лет. Кстати, по Нострадамусу, Генрих конкретно взойдет на французский престол в ближайшие месяцы.

В начале XXI века произойдет гигантский этнический всплеск черной рассы, вдохновленной коммунистическими идеями. Эти новые "черные дьяволы" захватят Америку, западную Европу, Африку, часть Южной Азии.

С 2003 года начнется духовный и технический подъем России (или того, что от нее останется). Пригодятся такие качества русского народа, как любовь к новизне, изобретательству, новаторству. Люди смогут быстро менять профессии и образ мышления. Россия станет новой Японией и на территории страны полностью исчезнет проблема национализма, хотя государство (бывший СССР) и разделится на 42 самостоятельные части.

В 2000 году возможны катаклизмы на юге России. А в 2010 году загорится Черное море — из-за поднимающегося со дна сероводорода.

*Куток гаспадыні*

## ДЕШЕВОЕ МАСЛО К ЧАЮ

*Продукты: картофель — 15 штук, сметана — 1 кг, вода холодная —200 г, вода горячая — 150 г, соль по вкусу.*

Сварим 15 крупных очищенных картофелин, протрем через сито, положим в глиняную посуду. Добавим самой густой охлажденной сметаны, хорошо размешаем, затем осторожно вольем горячую воду, не переставая взбивать. Добавим холодную воду, пока не собьется масло.

## МАКАРОНЫ С ГРИБАМИ

Поджарьте в растительном масле лук, сварите и нарежьте лапшой грибы (сухие предварительно замочите). Обжарьте грибы с луком, затем смешайте с горячими макаронами и залейте небольшим количеством крепкого грибного отвара.

## ТЫКВА ЖАРЕНАЯ

Нарежьте тыкву ломтиками в 1 см толщиной, обваляйте в муке и жарьте в топленом масле, пока не появится румяная корочка. Затем потушите под крышкой на слабом огне. Можно подавать со сметаной, с вареньем или повидлом.

## *Ці чулі вы, што...*

Амерыканец Крэйг Дэвісан з Фенікса (штат Арызона) вось ужо 19 гадоў штодня займаецца прабежкамі — у любое надвор'е. Дзякуючы гэтаму ён не толькі змог умацаваць сваё здароўе, але і накапіць пэўны капітал: за гэты час ён падабраў на сваёй дарозе 3170 долараў дробнымі манетамі. На гэтыя грошы сёлета, ён з жонкай добра адпачываў на Гаваях.

* * *

Рэйд праверкі якасці каўбасных вырабаў, выробленых прадпрыемствамі Белспажыўсаюза і рэалізуемых у Беларусі, які праходзіў у трэцім квартале сёлета, паказаў, што прадукцыя 48 прадпрыемстваў (з 85 праверaных), не адпавядае патрабаванням нарматыўных дакументаў. Забракавана больш палавіны прадукцыі па самых розных паказчыках: мікрабіялагічных, фізіка-хімічных, арганалептычных. Гэта значыць, каўбасы утрымлівалі хваробатворныя бактэрыі, мелі адхіленні ў рэцэптуры пры вырабе, і знешні выгляд іх не адпавядаў патрабаванням ДАСТа і спажыўцоў.

Прадпрыемствы былі аштрафаваны на 1 мільярд 285 мільёнаў рублёў. Да адміністрацыйнай адказнасці прыцягнуты 50 чалавек. Аднак надзеі на тое, што "каўбасная" сітуацыя зменіцца да лепшага, мала.


## ВЫХАДНЫЯ ДАНЫЯ

**"Беларускі Усход".** Грамадска-палітычная і літаратурна-мастацкая газета. На беларускай і рускай мовах.

**Заснавальнік** — працоўны калектыў рэдакцыі.

**Адрас:** 213670, Магілёўская вобл., Хоцімскі р-н, в.Маркаўка. Тэлефоны: галоўнага рэдактара — 22-9-89, намесніка гал. рэд. — 22-00-9.

**Рэгістрацыйны N141.**

Падпісны індэкс — 64098.

Пункт гледжання аўтараў надрукаваных матэрыялаў можа не супадаць з пазіцыяй рэдакцыі.

Адказнасць за дакладнасць фактаў, падзей, прозвішчаў і іншай інфармацыі нясуць аўтары апублікаваных матэрыялаў.

Газета падпісана да друку ў 16 гадзін 25 лістапада 1999 г. Надрукавана ў Магілёўскай абласной друкарні, вул. Першамайская, 70.

Тыраж 2667 экз. Аб'ём I друк. аркуш. Заказ № 22.

**Галоўны рэдактар В.А. ДАЎГАЛЁЎ.**